*Урсын Юліян Нямцэвіч*

# Падарожжа па Літве ў 1819 годзе

*Урывак*



«Да гэтага часу Бярэсце, сталіца майго роднага ваяводства, было мэтай, да якой я вельмі імкнуўся. Мне было сорамна, чалавеку паважнага ўжо веку, адкладваць маё гістарычнае падарожжа ў правінцыю, у якой і мае продкі, Ія сам прыйшлі на свет, тым болей, што гэты край не ўступае славутасцямі–воінамі, дзяржаўным і дзеячамі, вучонымі – Кароне польскай, край, які даў Ягелаў, які быў радзімай Хадкевічаў, Радзівілаў, Астрожскіх, Сапегаў, у якім нарадзіліся Каяловіч, Пачобут, Нарушэвіч, Рэйтан, Корсак, Касцюшка нарэшце. Няхай іншыя пускаюцца да квяцістай, поўнай духмяных пахаў Аўзоніі, няхай едуць у Парыж і багаты Лондан – я ж еду ў самыя нетры літоўскіх бароў, не такіх, можа, прыемных і вясёлых, але вельмі вабных для мяне, бо яны – частка святой і нешчаслівай маёй айчыны (...)

Думаючы пра якія-небудзь важныя рэчы, чалавек міжволі параўноўвае іх з іншымі. Колькі ж траціць мая Літва, калі я ў думках параўноўваю яе з краінамі  Еўропы! Я пытаўся ў сябе: няўжо глеба ў Брандэрбургу, у многіх частках Саксоніі, Шампані больш урадлІвыя, чым наша зямля на Жмудзі, у Ковенскім, Наваградскім, Ваўкавыскім ііншых паветах? Вядома ж не: наша глеба больш ураджайная на зямныя плады, чым ва ўсіх гэтых краінах. Чаму ж, пытаюся я зноў, нават у неўрадлівых правінцыях Францыі, Шатландыі, Швецыі, у пясчаным Брандэрбургу мы бачым свабодны люд, акуратныя мястэчкі, дагледжаныя палеткі, росквіт промыслаў, а адсюль і дабрабыт людзей? Малое, закінутае сярод бурлівага акіяну мястэчкаў Аркадзіі не параўнаць сваім росквітам І заможнасцю з Коўнам ці Пінскам з іх рэкамі, звязанымі са светам. Адказ на гэтыя ўсе пытанні такі ж просты, як і небяспечны.

Чалавек, кажу я, гэтая адораная духоўнасцю і нябесным святлом істота, усе свае здольнасці павінен накіроўваць на ўдасканаленне самаго сябе і свайго жыцця. Свае набыткі, кажу, я ён павінен аддаваць як спадчыну з пакалення ў пакаленне. Я ж у забраных правінцыях бачыў зусім адваротнае. Там не ўдасканаленне здольнасцяў, розуму, а штораз большую сапсаванасць і беднасць перадаюць пакаленні адно аднаму».



JULIANA URSYNA NIEMCEWICZA

PODRÓŻE HISTORYCZNE

po

ZIEMIACH POLSKICH

MIĘDZY ROKIEM 1811 A 1828 ODBYTE.

PARYŻ
W KSIĘGARNI A. FRANCKA.

PETERSBURG
W KSIĘGARNI B. M. WOLFFA.

1858.

*Друкуецца паводле тэкста з выдання «Літаратура Беларусі: першая палова XIX стагоддзя. Хрэстаматыя / Уклад. К.Цвірка. Мн. Беларуская навука. 2000. 512 ст.»*

# АСТРАМЕЧАЎСКІ РУКАПІС

БРЭСЦКІ РАЁННЫ КРАЯЗНАЎЧЫ АЛЬМАНАХ

НАВУКОВА-МЕТАДЫЧНАЕ ЛІТАРАТУРНАЕ ВЫДАННЕ

БРЭСЦКІ РАЁННЫ

ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ

АДДЗЕЛ ІДЭЯЛАГІЧНАЙ РАБОТЫ, КУЛЬТУРЫ І ПА СПРАВАХ МОЛАДЗІ РАЙВЫКАНКАМА

РАЁННЫ ДОМ РАМЁСТВАЎ



**Кантакты:**

(+375 29) 20-161-02
(+375 162) 965-957
e-mail: kotlas@tut.by

Падпісана да друку 06.06.2014.
Фармат 70х100 1/16. Гарнітура PF Agora Serif Pro.
Тыраж 99 экз. Ум. друк. арк. 8,10.
Друк цыфравы. Надрукавана ТДА «Артлайнсіці»,
г. Брэст, вул. Карбышава, 74.
Арыгінал макет падрыхтаваны
ТАА «Паліграфіка», зак. 69-2014.
Пасв. 2/2 ад 16.08.2013, пасв. 1/22 ад 16.08.2013,
вул. Стафеева, 21, 224007, г. Брэст
тэл. (+375 162) 49-26-79, www.poligrafika.by

**1-я і 4-я с. вокладкі:**
Зінаіда Кайко. Святочны рушнік. Фрагмент.

У афармленні выкарыстаны выцінанкі
мастачкі Святланы Вяль

Выходзіць штоквартальна
Мова: беларуская, руская

**№ 2 [6]•2014**

У НУМАРЫ:

# Старинные книги

## из библиотеки Свято-Михайловской церкви д. Остромечево




Среди книг:
«Акафест Игумену Брестскому», Варшава. 1903-1905 гг.;
«Символы веры». С-Петербург, 1897 г.;
«Рассказы изъ русской исторіи», С-Петербург, 1906 г.;
«Праздники нотного пения», Санкт-Петербург, 1902 г.» и др.

*Фото: Михаила Губарева*

# Будни и праздники остромечевцев



Председатель Брестского облисполкома Константин Сумар вручает диплом «Человек года» Алексею Скакуну



Освящение колоколов домовой Свято-Никольской церкви д. Люта.
*Фото Михаила Губарева.*



Торжественный митинг в честь Дня Победы 9 мая 2014 г в Остромечево.
*Фото Михаила Губарева.*



В гостях у Петра Климука вместе с ансамблем «Спадчына».
*Авторский снимок Алексея Скакуна.*

# НАРОДНЫЕ ПЕСНИ ПРИБУЖЬЯ



***АЛЕКСАНДРОВА***
***Нина Никифоровна,***
*1930 г.р., белоруска,*
*урож. д. Подлесье-Радваничское*



## Ой, у поли тополя стояла

Ой, у поли тополя стояла.
Вона всих козакив чаровала.
А одному нычого не шкодыть,
Вин до ее шо вечора ходыть.

Ой, дивчына з лыця румяная.
Ой, кому ж ты будэш сужаная.
Чы попу, чы дьяку, то дай божэ.
А як тому лайдаковы, ны дай божэ.

Ны отдай мэнэ, маты, за лайдака.
Пропадэ моя доля сяка така.
А отдай мэнэ, маты, за такого,
Шоб вин мэнэ вирно любыв, а я его.

## Ой, сывы кинь быжыть

Ой, сывы кинь быжыть,
На нём сыва грыва.
Сподобалась мэни,
сподобалась мэни
молода дивчына.
Не так та дивчына,
як ее лычынько.
Подай же дивчына,
подай же мылая,
На коня ручэньку.
Ручэньку подала,
тры слова сказала,
Ой лучшэ б я була,
ой лучшэ б я була,
Кохання ны знала.
Коханне, кохання,
з вэчора до рання.
Як сонэчко взыйде,
як сонэчко взыйде,
Коханне розыйдэ.

## Ой, чы я то ныва, чы й то покосы

Ой, чы я то ныва, чы й то покосы – 2 р.
Чы я то дивчына роспустыла косы.
Косы роспустыла, ны с кым ны ходыла – 2 р.
Маты мае сына, а я полюбыла.
Выражала маты сына у солдаты – 2 р.
Молоду нывистку в полэ лену рваты.
Як ны вырвыш лену, ны прыходь до дому – 2 р.
А у чыстом полю станэшь тополею.
Рвала вона, рвала, рвала ны дорвала – 2 р.
И у чыстом полю тополею стала.
Вжэ годок мынае, другы наступае – 2 р.
А на трэти рочок прыходыть сыночок.
Мамо моя, мамо, шо то за новына – 2 р.
Шо на нашом полю ростэ тополына.
Ны пытайся сыну за тую новыну – 2 р.
Быры топорыну, рубай тополыну.
Пэршы раз ударыв, вона похылылась – 2 р.
Другый раз ударыв, вона попросылась.
Ны рубай, хлопчына, я твоя дружына – 2 р.
Росхылы лысточкы, там твоя дытына.
Мамо, моя мамо, шо ты наробыла, – 2 р.
Мы так кохалыся, ты нас розлучыла.

## Чом ты ны прыйшов

Чом ты ны прыйшов, як мисяц зыйшов,
Як я тебе ждала.
Чы коня ны мав, чы стежки не знав,
Чы мать не пускала.

И коня я мав, и стежку я знав,
Мене мать пускала.
Найменьша сестра, бодай не зросла,
Сыдельце сховала.

А старша сестра, сыдельце знайшла,
Коня оседлала.
Ой, идь братыку до дивчыноньки,
Вона тебе ждала.

Тыче ричынька невеличынька,
Скочу перескочу.
Ой, отдай мене, матынька,
За кого я схочу.

## В огороди вэрба рясна

В огороди верба рясна, – 2 р.
Там стояла дивка красна.

Вона красна, шэй вродлыва, – 2 р.
Еи доля ны счастлыва.

Ее доля не счастлива, – 2 р.
Ныма того, шо любыла.

Ныма ёго, тай не буде, – 2 р.
Розлучылы злыи люды.

Розлучылы, россудылы, – 2 р.
Шоб мы в пари ны ходылы.

А мы в пары ходыть будым, – 2 р.
И друг друга любыть будым.



***БЛИЗНЮК***
***Любовь Юрьевна,***
*1944 г.р.*
*Уроженка д. Тюхиничи*
*Брестского района,*
*белоруска.*

# Ой, там у поли, у поли

Ой, там у поли, у поли
стэлыцця сызый туман.
Там у зылэному гаю
хлопэць с дивчыной гуляв.

Воны гулялы, гулялы,
До их цыганка прышла.
Дай мыни правую ручку,
Правду скажу тоби я.

А я цыганам ны виру,
Мылый кохае мынэ.
Выйды цыганка из гаю,
Бачыть ны хочу тыбэ.

Вышла цыганка из гаю,
Стала соби на краю.
Чуе як плаче дивчына,
Плачэ в зылэном гаю.

Ой, ты, хлопчына, хлопчына,
Ны зводь дивчыну с ума.
Ны зводь, ны зводь сыротыну,
Бо в ийи батька ныма.

Ой, там у поли, у поли,
Стэлыцця сызый туман.
Раньше гуляв з дивчыною,
Тыпэр гуляе вин сам.





*Со слов Нины Романовны*
***КОТЕЛЬНИКОВОЙ (МАСЮК)***

*Родилась в д. Пожежин Малоритского района. Работала медсестрой. Пела в хоре брестского композитора А.Шутова, а также в хоре УВД Брестского облисполкома под руководством В.И. Ольшевского. В настоящее время проживает в г. Бресте.*

# Есть у поли крыниченька

Есть у поли крынычэнька,
Там холодна водычэнька – 2 р.

Там дивчина воду брала,
До казака размовляла – 2 р.

Ой, козачэ, козачэньку,
Возьмы мэнэ за жонойку – 2 р.

Як я можу тэбэ взяты,
Як ты маеш чтэры браты – 2 р.

Счаруй брата хоть одного,
Будэш маты мылынького – 2 р.

Як я можу счаруваты,
А хто ж будэ научаты – 2 р.

Есть у поли купынойка,
Там забыты гадынойка – 2 р.

Возьмы тую гадынойку,
Звары чарув для братойка – 2 р.

Взяла тую годынэчку,
Дала чарув для братойка.

Есть у поли крынычэнька,
Там холодна водычэнька – 2 р.

Там дивчина воду брала,
До казака размовляла – 2 р.

Ой, козачэ, козачэньку,
Возьмы мэнэ за жонойку – 2 р.

Як я можу тэбэ взяты,
Як ты вмииш чаруваты -2 р.

Счарувала брата свого,
А вже мэнэ ныма еого -2 р.

## Есть у поли дуб зылэный

Есть у поли дуб зылэный,
Нихто його ны зрубав.
Под тым дубом зылыненьким
Козак дивку намовляв.

Вин намовляв тэй цыловав,
Докиль з розуму ны звив.
Звив з розому, сив на коня
Оставайся ты сама.

Аны сама я осталося,
Есть у поли калина.

## Маёхи
*(от русск. СТРАДАНИЯ)*

Ой, клины, дырывко высокое, – 2 р.
На ему листве широкое.

Листве широкое, витке довче – 2 р.
Говорят людэ мой муж ны пье

А он никогда с конямы ны идэ – 2 р.
Он от дня до дня пропыв коня.

Пропыв коныка вороного – 2 р.
Пушов до стойни до другого.

Зайшов в стоиньку, подывывся – 2 р.
Своей мылынькой пожурывся.

Мылая моя, выкуп коня – 2 р.
Выкуп коныка вороного.

Выкуп коныка вороного,
Пожалуй мэнэ молодого.

Ой, ны раз ны два выкупляла, – 2 р.
Шолковый платок закладала.



*Со слов своего отца*
***КУЦЕВИЧА Алексея***
***Онуфриевича,***
*жителя деревни Залисы*
*Ратновского района*
*Волынской области,*
*записала дочь*
*Наталья Алексеевна*
*ОШМАРИНА,*
*жительница г. Бреста.*

*Куцевич А.О. родился 07.02.1933 г. В семье было три сестры и Алексей, старший. Пас коров и помогал маме смотреть за младшими. Отец воевал и закончил войну в Берлине. Со временем детей стало шестеро, и приходилось голодать. Сами готовили хлеб. Состав хлеба: опилки березовые, гречневая шелуха, желуди, картофельные обрезки, ржаная мука.*

*После войны служил в Бурят-Монгольской АССР, Читинская область, г. Улан-Удэ в инженерно-технических войсках. Уволился из армии в звании старшины. Прочитал в газете, что требуются работники для поднятия разрушенной угольной промышленности, завербовался в Донецк на шахту, где проработал два года. Вернулся в деревню. Сразу женился на девушке, которая ждала его из армии. Работал строителем. Последние 20 лет – приемо-сдатчиком грузов на станции Брест-Центральный. Нынче поет в церковном хоре д. Залисы.*

## На городи нывка

На городи нывка, жыта половинка,
Там дивчына тое жыто жала
Гарна, горнобрывка.

Жала вона, жала, сила спочываты.
Йихав козак з Украины,
Мусыв шапку зняты.

Музыв шапку зняты и дэнь добры даты.
Она встала, встала видказала,
Сэрдэньком назвала.

Ужо тая слава миж друзямы стала,
Що дивчына того козачэнька
Сэрдэньком назвала.

Ужэ тая слава, по всим хуторочку,
Що дивчына тому козакови
Вышыла сорочку.

Ужэ тая слава по всим сэли стала,
Що дивчына з своим козаченьком
На рушнычок стала.

На рушнычок стала, радисно смиялась,
Що з коханым своим козаченьком
В храме объвинчалась.

# Як поихав козаченько з дома на вийну

Як поихав козачэнько з дому
на вийну, тай покинув дома
жинку, як малювану.

Як приснився козачэньку дывнэсэнькый
сон, що з правого рукавчыка
вылэтыв сокол.

Як поихав козачэнько вдоль по
дорожцы, долэм, долэм, долиною
тай до ворожкы.

Цыганочко-ворожэчко видгадай
мни сон, що з правого рукавчыка
вылетив сокол.

Ой я тоби, козачэньку, всю правду
скажу, як нэ скажэш всэи
правды, голову зитну.

Скажу тобе козачэньку першу прычыну -
твоя жинка, як ластивка, сына
вродыла.

Скажу тобе козачэньку другу прычыну –
породывшы твого сына, сама
чуть жыва.

Скажу тоби козачэньку трэтю прычыну –
твоя жинка, як ластивка,
вику дожыла.

Як поихав козачэнько блыжчэ
пид сэло, нигдэ свитла ни видаты,
тилькы у його.

Як пидьихав козачэнько блыжче
пид викно, лэжыть мыла,
як калына, вже сонцэ зийшло.

Як уступыв козачэнько блыжчэ
до хаты, а сыночок, як цвиточок,
каже: «Встань, маты».

Як ударывсь козачэнько в стил
головою, помыраешь, моя мыла,
и я з тобою.

# На нэби мисяц

На нэби мисяць,
на нэби ясный.
Одна дивчина в саду гуляла.
Додом нэвэсэло ишла.

А тим садочку ростуть цвиточкы,
Всэ полывай, та полывай.
Мни надоилы ти парубочкы.
Всэ покохай, та забувай.

Пиду в аптэку, попрошу яду.
Аптэкар яду нэ дае.
Сердце дивочэ, хай скажэ правду,
Яка досада в тэбэ е.

Пиду до ричкы, тай утоплюся.
Нэхай нэсэ мэнэ вода.
Скильки кохала я парубочкив,
Навик осталася одна.



# НАРОДНЫЯ ПАВЕР'І

*Запісала студэнтка БрДУ імя А.С.Пушкіна Юлія Савон у в. Прыбарава Брэсцкага раёна ад СІДАРУК Марыі Якаўлеўны (1938 г.н., бел., прав., мясцовая). Запіс 2007 г.*

В Вэрбну ныділю вдарыть вербай па спіне таго, каму жадаем здароўя.

Ашчыпвая гусэй чы кур, ны можна говорыты, а то можэ напастэ «шчып», тіло будэ в сыняках.

Калі чуецца скрыпт у хаце ў няцотнае чысло – то гэта да пакойніка.

Калі вы аступіцеся, выходзячы на Пасху з цэрквы, то трэба чакаць сватоў.

Ны можна дівчынам пырыступатэ мэртвэ дэрэво і пынёк, бо дітэ будуть ны жывучыя.

Хто ў пятныццю постэ саблюдае, у гразі ны возыцця, таму Гасподзь памагае.

Ны можна кыдатэ на подлогу замазаныі ползункэ і пялёнкі, бо дітэ будуть жэтэ бідно.

Калі на Пасху датэ слабому поійстэ яіц і куліча з левай рукі і босіком, то ён у хуткім часе будзе здароў.

Калі трывожыць душа памерлага, ці прыходзіць у дом, то трэба абсыпаць хату свячоным макам.

Ны можна на Головосіка (Івана Предтечі) йстэ яблык, гарбузов і т. д. Ны можна братэ сокіру, косу, шоб ны було сумашэствія в роді.

Ны можна кувыркацца, калі на небі полумісяць, шоб в роді ны було полуумія.

# ПАДАННІ

## Пра паходжанне вёскі Чэрні

Старыя людзі кажуць, што вёска завецца так, таму што даўным-даўно на гэтым месцы знаходзіўся манастыр. Гэта быў мужчынскі манастыр, і манахі хадзілі ва ўсім чорным. Ідуць дзе калі манахі на вуліцы, а ім услед людзі гаворадь: «Чэрнь ідзе!». Так і пачалі называць вёску.

*(Расказала Данілава Алена Іванаўна, 1925 г.н.*
*Запісала Сімончык Д.М.).*

## Пра паходжанне вёскі Чирни

Колысьти давным-давно на мисьти сэла Чирни нычёго ны було, тылько вылыки и густы лис. И в гэтому лисовы посылылыся два монаха. Одного звалы Чирнэць, а другого – Бэрда и жылы воны в зимлянках. Путом воны сталы вырубваты лис, шоб построиты соби хаты. Бэрда и Чирнэць займалыся промысламы. Бэрда зробыв кросны и ткав, а Чирнэць робыв бочки, ночвы, дижки. Про монахов сталы прознаваты люды з городов. Воны сталы обминьватыся товаром и сталы сылытыся коло монахов. Чирнэць жыв там, дэ зарас Чирни, а Бэрда – дэ Бэрдычи.

*(Расказала Паляшчук Аляксандра Васільеўна, 1931 г.н.*
*Запісала Сімончык Д.М.).*

# ПРЫКАЗКІ

*Запісалі студэнты БрДУ імя А.С. Пушкіна Гаўрыленка С.В. і Шэўкунова В.В. у в. Чэрск Брэсцкага раёна ад МІХАЛЮК В.А. (1934 г.н.). Запіс 2001 г.*

Сава і Варвара кусок ночы удубрала.
Быда за быдою ходыть і быдою пуганяя.
Було, алэ сплыло.
В уднэ ухо влытыть, в другое вылытыть.
В тыхуму булоті і чэрті водяцца.
Дэ тонко, там і рвэцця.
А йуму хоть в очы плюнь.
Булы б мы, а грошы будуть.
У пынька удзячны, то будэ хурошый.
Пулувына світу скачэ, пулувіна плачэ.

Засвіть сонцэ і в нашэ уконцэ.
Чужую быду рукамы рузвыду.
Якая пава, такая і слава.
Як красу давалы, то вуна спала,
а як шчасце давалы, то вона встала.
Кумар носа ны пудточыт.
Коўса – дівоча краса.
За дурнэйу головойу ныма
нучам спокойу.
Лэхко чужымы рукамы жар загрыбаты.
Або пан, або пропав.
Любыт’, як совбака палку.

Мастак на всі рукы: і швэц’,
і жнэц’, і в дуду ігрэц.
Мніго хочыш – мало получыш.
Шкодоваты йе кому, а помогаты – то не.
Слов мніго, а дэл мало.
Мало вірыцця.
Мойа хата з крайу – нычого ны знаю.
Всім ны угодыш.
Хоть колка на голові тышы,
а йуму все роўно.
Попала коса на камэнь.
Одклад ны ідэ ў лад.

Чыя б корова мычэла, а твоя б мовчэла.
На чужому горбові до раю
хочыш заіхаты.
Пачэв за здравійе, а кончыв за упокой.

Ны всякая пісня до конца спываецца.
Од добра добра ны шукають.
Ны подлывай масло в огонь.
Ны копай кому яму – сам провалышся.
У дурнэйі кумы однэ на ўмы.
Ны подмажыш – ны пойшдыш.
Носыцця, як дурынь з торбойу.

Він в сорочцы родывся.
Од вóрот – повóрот.
Од óдного бэрыга óдстав –
до другого ны прystав.
Попався між вроны – каркай, як і воны.
З розумнымі порозумыіш,
з друнымі подурнііш.
Куды вітэр – туды хваля.
Охота гірш ныволы.
Пар косты ны ломыт.
Помынэв шыло на мыло.
Ны найівся – ны налыжышся.

Пырыд смэртю ны надышышся.
По тобі давно турма плачэ.
Якоўэ літа – такэй розум.
Йыдыш на дэнь –
хліба быры на тыждынь.
Пожывэм – побачым.
І камынь вода точыть.
Дают’ – быры, б’ют – втыкай.
І сам ны гам, і куму ны дам.
Рышытом воду ны носят.
До Дмытра дівка хытра.

Рукам волю ны давай.
С чым прыйшов – з тым і пойшов.
Світ клыном на тобі зыйшовся.
Спільна тілько скула добрая.
Жывуць, як кіт з собакою.
Тыпэр густо, а заўтра пусто.
Під ліжачый камынь вода ны тычэ.
Ждаты з мора погоды.

Слюзамы гору ны поможыш.
Чув звон, но ны знайэ дэ вон.

Сучка лае – вітэр носыть.
Собацы – собачча смэрть.
Старость ны радость.
Молодосць тэж гадосць.
Тыха вода бырыгі рвэ.
У скупого зымою сніга ны допросышся.
Старый кінь борозды ны портыт.
Умрэш – нычо з собою ны забырэш.
В тыснoты, да ны в обыді.
Ліпш кэпско йіхаты, чым добрэ йты.

Ны носы камынь за пазухай.
Всюго ны пырыкупыш.
Яблыко од яблыні ныдалэко котыцця.
В ложцы воды утопыв бы.
Спасыбо в карман ны положыш.
Ны грай з огнём.

Тыхшый воды, ныжшый травы.
Одного поля ягоды.
Колы хоча Бог чоловіка покараты,
то спочатку розуму одбырае.
Пій, ды розуму ны пропій.

Повір жыду на свою быду.
Ты мій кум, то ны брышы на мэнэ.
Хто рана встае, тому Бог дае.
Віддай Божае Богу, а панoво пану.
Пі ды йіж, покуль рот свіж,
бо як вмрэш – то й колом ны впрэш.

Моя кішка крывая, всё прымае.
Хоць вмэрты подацця,
шоб вам сподобацця.
На чужыя ногы ны копай бырлогы,
бо твоя нога в йійі влізэ.
Успокойся, бо зара успокою.
Зарэкалася свыня бруд ны йісты.

***

*Запісала студэнтка БрДУ имя А.С. Пушкина Ганна Каўчук ў в. Збірагі Брэсцкага раёна ад КАЎЧУК Р.В. (1938 г.н.).*

До Пречиста девка чиста.
Богослаў хлопцаў по дэвчатём разослав.
На Грамніцы нап'ецца пэвень вадзіцы.
На Покрова девка готова.

***

*Запісала студэнтка БрДУ імя А.С.Пушкіна Юлія Шамяціла ў в. Кустын Брэсцкага раёна ад ЯНЧУК Ганны Фёдараўны (1931 г.н., бел., правасл., мясцовая). Запіс 2009 г.*

Як Казанска скажа, то й зыма пакажа.
Хто на Казанску жаніхаецца, той нэ покаіцца.
Кулы на Пятра дождж – будзе жыто, як хвошч.
Колы на Юр'я мороз – будэць добры авёс.
Колы на Юр'я будэць роса – хопыць коням аўса.
На Благовешчанне дзеўка косу нэ пляце, птушка гнэзда нэ ўе.
Прыйшла Покрова – нэ дала молока корова.
Хто сее на Покрове – нэ будэ чого даты корове.
Як на Стрэчанне петух ноп'ецца водіцы, то на Юр'я карова наесца травіцы.

***

*Запісаў студэнт БрДУ імя А.С. Пушкіна Алег Зубараў у в. Хабы Брэсцкага раёна ад ГАЎРЫЛОВІЧА Уладзіміра Уладзіміравіча (1934 г.н., мясцовы, адукацыя базавая).*
*Запіс 1997 г.*

Сэрца саколье, а смеласць варонья.
Брюхо глухо, словом не уймеш.
На то два вуха, штобы болей слухаць.
На смелага сабака лаець, а труслівага рвець.
Свая хатка родная матка!
І в Польше нет хозяіна больше!
Всякі дом хозяіном прыгож!
Он хорошо пяець да не худо і п’ець!
Не сподручно цяляці волка лягаці!
Не ўстанеш детей раджаючы, а ўстанеш саджаючы.
До поры до времені не сеюць семені.
Цану ўзнаеш, калі штосьці губляеш!
Нарадзіўся не тарапіўся, а цяпер на што.
Не шавель чужы шчавель, з свайго набяры, ды як хош шавялі.

# УСПАМІНЫ ПРА ВЯЛІКУЮ АЙЧЫННУЮ ВАЙНУ

*Запісала студэнтка БрДУ імя А.С.Пушкіна Таццяна Станчук ў в. Медна Брэсцкага раёна ад ЦУПРЭТЫ Марыі Васільеўны (1945 г.н., бел., пісьм., правасл., мясцовая).*

## Як загінула наша сямья

«Тогда было во время войны приказ таки, шо б никому ничого нихто не давал. Ни хлеба там, ни одежды, ничого нихто. Хто будет просить, ходить, то никому ничого не давал. По дакументам був приказ. Бо думали, шо партизаны ходят и где вот так по краям живут люди, то под лисом, под лисом живут люди, туды партизаны ходят и значит их пытаются, забирают там. Ну, ни забирают, просят там и бэруть там. А моя баба з дедом, жыла баба, дед и четверо шэ дитэй было. По моей матери як то сказать, по моей матери в еи, в тэи бабе по матери, гэтого забрали сына в Германию, забрали одного зятя в Германию, другого зятя, всих зятэй забралы в Германию. Сына забрали и два зятя. И осталась баба, шо ныма ныкого мужыка, короче ны одного. Коня нима кому запрашты, ну ничого, ни гораты, ни косыты, ничого, ныма ныкого. И баба попросыла, значыть, гэто вжэ мой батько був тожэ зять. Мы жыли в Могиловы, в Медно под самым лисом. И вжэ моя маты вышла замуж туда до их, вжэ до батько. И в их вжэ було в моих родителей четверо дитэй: тры хлопцы и вжэ мусыть Надя была, а можа тольки трое, трое наверно. Ну и шо тая баба просыть, шо это прыдитэ до нас жыты значыть, потому шо хай... А там остався сын в их и батько там е, и шэ хлопэц е, кавалер восемнацать лит, таки там вжэ е, е два мужыки шэ в хаты. А тут вжэ ныма ны одного, потому шо вжэ забрав. Баба просыть, шо

прыдитэ сюды жыты, значыть, и хоть трохи помошты, хоть коня запрашты, о. И батько з матэрэю прышли сюды, тут разам жыли, а тут жэ о рядом недалёко на сыли. А на каждой хати была бирка, фамилия там, Василюк на нашым там была, Василюк написана, а тут Табала фамилия была, о. И воны буквально дви ныдили тут пожылы. А там вжэ, ну жэ той приказ вжэ раньшэ вышов: шо б ныкому нычого ны давалы. Тая баба моя, котора дальшэ вжэ это дальшэ жывэ, пэкла хлиб в пэчи. Хлиб выймае з пэчи горячий, на стол выкладае ранэнько, во на стол выкладае, и прыходыть такы мужык мокрый всё, а то ж утро, в ранЫцы, такы весь мокрый, такы трасэцца, замэрзлый, такы обросшый всё, аж ёго трасэ всё того, о. И этого, дай, дай, просыть, дай хлиб, дай хлиб. Ну, дэ баба нэ дасть хлиба, як е на столи, вытягла з пэчи, вытягла токо шо, нэ вспила ховаты, ничого, ны гэтого. Дэ вона, вона взяла кусок, зразу одризала половину булку и яму под тую куфайку подопхнула: иды скорей, выходь, втыкай з хаты, втыкай шо б тобэ ны... А вжэ мой батько отсюда утром, шо тут коровы выгнав чы шо там зробылы и рано пошов туды до свого батько, ну можа шо робыты будэмо разом чы шо... И вин идэ, а там в нас таки садок, шэ вун зара есть той сад, таки садок там. Кажа, бачу, хтось идэ, хтось мужык таки з лиса. Я, кажа, прытаився, то мни батька расказвав, кажа, вжэ прытых, там за грушу став, стою. Кажа, дывлюся, пошов до хаты, а хто за чаловик не познав, стою и, кажа, чэрэз дви минуты вун вжэ выходыть, вун пошов. Я, кажа, за им, думаю, шо ж там за чаловик, я за им, а там такие березы, такие курчы, берёзки такие небольшие, то я, кажа, по стэжки за им, за им и впэрэди шось, кажа, бачу, бух, кинув. Картошка там, картошка росла. О, загоны, кажа, бухнув, шось кинув и пошов сам, вун, кажа, пошов, а я хутчэй, кажа, за им, шо вин кинув. Заходыть да буякив: хлиб лыжыть, хлиб лыжыть, а вин выкинув, выкинув там. Тыи и ёго того батька вся родня, вся погибла таким образом. Баба дала того хлиба, вин взяв выкинув, вин не голодны був, а гэта подсыльные такие булы, во. И нэ зналы, яки дэнь, если б воны были – повтыкалы вжэ в лис, то можа были осталыся, а так воны были вдома, жыли. А тое еи самы меньшы Петя, був кавалер восемнацать лит, був на свадьби, в нэдилю була свадьба, чы то в субботу була свадьба, а в ныдилю гэтого... В Рогозно клыкалы сюды в Рогозно шла наша родня, о. И дивчата ёго не пускали на ноч, просылы, нэ йды, пойдэм танцоваты. Кросиво вжэ таки був, весёлы. Нэ йды, просылы, шо б ны шов дадому, ночуй, завтра, шэ завтра, ну погуляемо, знаеш, як молодёжь, завтра погуляем, а вун нет, ни в какую, нет. Гэто само и шэ утром вси спалы и их пошлы забралы и в ямку кинулы, четверо диты шэ таких, вин самый меньшый восемнацать лит, а тыи шэ ж вси дивчата были вси старыйшы и батько, и матэро, и дида, и бабу значыть, ну... И муй батько застався ради того, ну батько и маты и ёго тры браты, их всих тожэ и малых, и маленьких, всяких, о. Тожэ осталыся ради того, шо воны пэрэшли сюда до тэи бабы на врэмя, на лито».

*Дата запісу: 15.07.2011 г.*
*Кіраўнік: І.А. Швед*

*(Матэрыялы раздзела падрыхтавала да друку Алена МАРЧАНКАВА, лабарант вучэбнай фальклорна-краязнаўчай лабараторыі БрДУ імя А.С. Пушкіна).*

*Рисунки Антона Мартынюка*

# Свята Купалле



*Сягодня й Купала, заўтра Ян,*
*Да зайграй, сонейка,*
*зайграй нам,*
*Каб зялёны лугі шумелі,*
*Каб сырая зямля стагнала.*
*Каб сырая зямля стагнала*
*Да й ад дзявоцкага гуляння,*
*Да й ад дзявоцкага гуляння.*
*Да й ад жаноцкага спявання.*



... у Астрамечава



...у Кавердзяках

# «НЭДАЛЭЧКО ЧЕРВОНЭ ЯЕЧКО!»

## *Вялікдзень на Прыбужжы*



***Іна Швед,***
***доктар філалагічных навук, прафесар кафедры беларускага літаратуразнаўства БрДУ імя А.С. Пушкіна***

**Вялікдзень (Паска, Вэлыканне)** – найбольш чаканае і ўрачыстае свята народнага календара:

«Вэлыкдэнь» – то самое вэлыкое свято, ёго всі довго чікають. То самое радосное свято. У цій дэнь, по-цэрковному, і то на самой справі, розпялы Ісуса Хрыста. Ой, не... Ёго розпялы раньшэ, а ў цій дэнь, на Паску – він воскрэс. То воскрэсенне Ісуса Хрыста. То шчэ ж і кажуть: «Хрыстос воскрэс!». У цій дэнь уваскрэс Ісус Хрыстос *(Кавердзякі, ад Курчак Марыі Анатольеўны, 1979 г.н., украінкі, прав., прыехала з Украіны ў 1999 г.).*

Свята гэтае рухомае: «Нэма одной даты, колы відзначаецця Паска. Кожны раз вона справляецця ў розную дату. Алэ тількі ў нэділю. То завжды так, а дата розная бувае, як попадае. А тая нэділя звэцця Світлою, колы Паска. Вэлыкдэнь – то нэ одён празнык. Туды ўваходять і Страсный тыждэнь, і Вэрбная нэділя, Чыстый чэтверг, вось тая сама Паска, Вэлыкдэнь (тое самое), шчэ




Наталья Вабищевич. Салфетка Пасхальная, д. Остромечево.

Вэлыкодній тыждэнь. Вось то много свят. А після Паскі йдэ Радуніца і Світлый понэділок. В нас саму Паску люды святкують тры дні. Тоды нэ можна працюваты всі тры дні, а тількі отдыхаты» *(Кавердзякі, ад Курчак Марыі Анатольеўны).*

На працягу ўсяго тыдня (Вэлыкодній тыждэнь) народ з задавальненнем наведвае храмавыя святочныя богаслужэнні. Найбольш значнае і ўрачыстае – Усяночная служба ў гонар Светлага Хрыстова Уваскрасення ў праваслаўнай традыцыі і Змёртвыхпаўстанне Пана Езуса – у каталіцкай.

«У Пасхальну суботу – то був апошні дэнь пэрэд Паскою – ніччю нэ потрібно було засыпаты, бо хто засыпав, той просыпав своё шчясте. А колы люды такі спалы, то ў хаті повіно на ніч буты включёно світло, бо уночі почіналося богослужэнне. І відбувався на Паску шчэ хрэсный ход навкол цэркві» *(Кавердзякі, ад Курчак Марыі Анатольеўны).*

Пра выключнасць гэтага свята сведчаць і ўяўленні аб незвычайных паводзінах сонца: «На Пасху солнце играет. Это значит, что, когда идут соВсенощной люди, вот когда солнце всходит, оно как бы вот такими переливами. Солнышко переливается только на Пасху» *(Падлужжа, ад Несцярук Лідзіі Іванаўны, 1945 г.н., бел., пісьм., правасл., мясцовая)*;

«– А вы дэвіліся, шо учора [на Вялікдзень] іграло сонечкэ? Грае 2 раза на год, і на Купалу – як встае, і як заходыць. І на Пасху» (Ляплёўка, зап. ад групы жанчын).

Да Пасхі старанна рыхтаваліся, гатавалі ежу, фарбавалі яйкі: «...Красіво было! Мы тут бегалі.Пірогі готовілі ў абязательным парадку. З маркоўкай, і з капустай, з творагам очэнь вкусна, м'ясо тушылі – свініну, курэй, сметаны многа было. Мак яшчэ очэнь вкусны быў. Усё мама так магла, так получалася лоўка! Я сама цяпер делаю, а так не палучаецца» *(Збунін, ад Касцючык Галіны Пятроўны, 1944 г.н., бел., пісьм., правасл., мясцовая).*

Яйка асэнсоўваецца як важны атрыбут Пасхі: «Нэділя пэрэд Паскою – то Вэрбная нэділя, вона звэцця Вэрбною. У Вэрбну нэділю свяцять у цэркві лозы вэрбы. А вэрба – то найпэрша рослына, яка прокыдаецця після зымы. І тымы лозынамы вэрбы (посвячэнымі) потім стёбалы домачядців і скотыну. І говорылы: «Вэрба б'е, нэ я б'ю. // За тыждэнь Вэлыкдэнь. // Нэдалэчко червонэ яечко». А вот «нэдалэчко червонэ яечко» – то значіт, што Паска ідэ...То ў Вэлыкодную суботу робять, робять крашанкі, пісанкі. То обовязкова трэбо робыты, бо крашэні яйца – сымвол Паскі.– А чаму яйкі фарбуюць? – Бо ў яйцэ захована сыла, з якой народжуецця новы дэнь. А сылы зла шкодять тому народжэнню. І жыттё, што збырэгалося ў яйці, потрібно було обэрэгты від злых сыл. Шкорлупу яйца покрывалы фарбою, рознымы знакамы. То булы крашанкі, пісанкі. Кожні колер мав свой знак. Червоній – то жыттё, жовты – то колер зор, урожаю, блакітній колер прыносыв здоров'е» *(Кавердзякі, ад Курчак Марыі Анатольеўны).*

Найчасцей жа паведамляецца пра фараванне яек «цыбульныком». «На Пасху яйца красят цэбулею» *(Орхава, ад Олэндэр Лідзіі Карпаўны, 1935 г.н., пісьм., правасл., мясцовая).*

«Шчэ обовязковым і самым головным на Паску було посвятыты ў цэрквы паскі, яйца, йіжу (сало, ковбасы), а ўранку іх йісты. На Паску заміст здаровкання кажуть: «Хрыстос васкрэс» і одказвають: «Ваістіну ўваскрэс». Так кажуть усі тры дні. А після, як гэтае сказалы, люды дають одно одному пісанкі, бо то такі дар» *(Кавердзякі, ад Курчак Марыі Анатольеўны).*

Пасля Усяночнай і хрыстосавання кожны імкнуўся як найхутчэй вярнуцца

дадому, каб ужываннем яйка распачаць велікодную трапезу: «Спачатку був Вэлыкі піст, пасля якога елі пасвячоную ў царкве ежу. У першую чаргу ўжывалы пафарбаваныя яйкі» *(Кустын, ад Драб Зінаіды Станіславаўны, 1927 г.н., бел., пісьм., правасл., мясцовая).*

Асвячонае яйка (як і іншыя прадукты) надзялялася асаблівымі ўласцівасцямі, магічнай сілай. Велікодныя яйкі называліся «вялічка, іх свяцілі ў царкве, елі, дарылі, насілі на могілкі, білісь (ігралі), закапвалі пад парогам» *(Чэрні, ад Данілавай Алены Іванаўны, 1925 г.н., бел., правасл.).* «Кулы прыносылы гэтае яечка толькі з царквы, клалі яго ў ваду. Потым той вадою мыліся, каб быць румяным увесь год» *(Кустын, ад Драб Зінаіды Станіславаўны)*; «Шкарлупу ад крашаных яек даюць курам, каб не хадзілі да суседей» *(Орхава, ад Пашкевіч Марыі Сцяпанаўны, 1947 г.н., бел., пісьм., правасл., мясцовая).* Косткі, што засталіся ад асвячанай свініны, «закапывалі ў поле, каб быў добры ураджай» *(Чэрні, ад Данілавай Алены Іванаўны, 1925 г.н., бел., правасл.).* Нескарыстаныя лушпінкі яек і іншыя рэшткі велікодных страў не выкідалі: «В печку всё. Всё в печку» *(Ляплёўка, ад Пракапюк Антаніны Сцяпанаўны, 1957 г.н., бел., сярэдняя адук., правасл., мясцовая).*

Качанне і біццё яек было самай любімай велікоднай забавай: «Гулялы ў «Біткі». На Вялікдзень нельга було сварытыся, бітыся – то був вэлыкі гріх»; «На Вэлыкдэнь стукалыся свячонымі яйкамі. Пераможцам був той, у каго на працягу ўсёй гульні яйка заставалася цэлым» *(Кустын, ад Драб Зінаіды Станіславаўны)*; «На Пасху коталы яйца. Горочку зделаюць із пяска і о яйца коцяцца, чыё поб'ецца, той і забірае» *(Ляплёўка, ад Пракапюк Антаніны Сцяпанаўны.*

Хоць валачобны абрад на Брэстчыне найбольш пашыраны быў у Ганцавіцкім і Пружанскім раёнах, маюцца звесткі аб яго правядзенні і ў Брэсцкім раёне: «Увечары по хатах ходылы спевакы з «волочобнымі» песнямі. Яны жадалі ўсім здороўя, шчасця, ураджаю. Хазяін хаты частаваў іх яйкамі і іншымі дарункамі». Спяваліся валачобныя песні кшталту

«Волочобныкі волочылися,
Намочылися,
Прыйшлі до хаты посушылися...
Пакажыся, хозяін,
Дайце хоць яечка
Ды хоць стаканчык»

*(Кустын, ад Драб Зінаіды Станіславаўны).*

У гэты сакральны час намагаліся забяспечыць сябе і сваіх блізкіх здароўем, дабрабытам, даведацца пра будучае. Дзяўчаты лічылі, штокалі аступішся, выходзячы на Пасху з цэрквы, то трэба чакаць сватоў *(Прыбарава, ад Сідарук Марыі Якаўлеўны, 1938 г.н., бел., прав., мясцовая).*

У другі дзень Вялікадня або ў чацвер Велікоднага тыдня адбывалася рытуальнае абліванне, как не было засухі і быў плён у гаспадарчых справах. «Мы когда на третий день Пасхи обливалися. Раньше ходили мы, ой это уже женатые были почти все из моего года. Ну и яйца так собирают. Каждый должен дать три яйца. Обольем всех пройдем, потом берем корзину и заходим, кого облили, они уже приготовили, по хатам, в каждую хату. – А хто хадзіў, хлопцы? – Да, только мужчины» *(Скокі, ад Мартынюка Міхаіла Маркавіча, 1933 г.н., бел., пісьм., правасл., мясцовы).*

Падчас Велікоднага тыдня абавязкова ўшаноўваліся продкі: прыводзіліся ў парадак могілкі, на крыжах абнаўляліся ручнікі, стужкі, вяночкі, нягледзячы на царкоўныя забароны, на магілах пакідаліся велікодныя стравы, свеч-

ка. Асноўны дзень велікоднага ўшанавання памерлых – чацвер: «На Пасху в четверг ходят на кладбішче. Там полностью служітся служба за упокой, а потом [бацюшка]ходіт по могілкам, кропіть. Яйца крашэнэ большэ в красный і зеленый нэсут, хлеб, батоны» *(Ляплёўка, ад Галалюк Ганны Васільеўны, 1925 г.н., бел., пісьм., правасл., мясцовая)*; «На Пасху яйца на кладбішча носят, в третій день» *(Ляплёўка, ад Пракапюк Антаніны Сцяпанаўны). Вілейка Сафія Сямёнаўна, 1927 г.н. (Брэст)* распавядала мне, што пасля таго, як пакінулі ежу на магіле, трэба абсыпаць яе пяском ці попелам, а раніцай наступнага дня прыйсці і паглядзець, ці адбіліся на насыпаным птушыныя сляды. Калі так, то гэта значыць, што душы памерлых прыляталі частавацца.

Падчас прымеркаваных да нядзелі ці панядзелка Фаміногa тыдня рытуалаў «пагасціўшыя» ў жывах памерлыя адпраўляліся назад, з чым нярэдка спалучалася канчатковае выгнанне зімы.



# КУПАЛЛЕ

А на Купалу
Рана сонца йграла,
На добрыя годы,
На цеплыя росы,
На хлебы-ураджаі..
Ой, рана-рана на Яна
Да хораша сонейка гуляла,
І зямля стагнала з Купала,
Дарожка звінела ад песен...

У ноч з 6 на 7 ліпеня (23 – 24 чэрвеня) ў Беларусі адзначаецца адно з найбольш яскравых і паэтычных святаў – Купалле. Яго важнасць абумоўлена часам правяддзення – днем летняга сонцастаяння.

Першае ўпамінанне пра свята ёсць у Цвярскім летапісу пад 1175 г., у Іпацьеўскім летапісу ў запісу 1262 г. яно ўжо ўпамінаецца пад яго сучаснай назвай: «Литва изгнаша ездов на каноун Ивана дни на сама Коупаль». Як каляндарная дата сустракаецца назва Купалы ў старажытнабеларускіх граматах XIV ст.

У XIX -пачатку XXст. напярэдадні свята, вечарам моладзь наладжвала масавае шэсце па вуліцах вескі. Усе ўпрыгожвалі сябе зелянінай, дзяўчаты – вянкамі, падпярэзваліся палыном, запальвалі доўгія шасты і з песнямі, крыкамі, падыходзілі да кожнай хаты, запрашаючы ўсіх на Купалле.

У аснове ўсей купальскай абраднасці ляжыць пакланенне нашых прашчураў сонцу (агню), вадзе і расліннасці. Святкаванне Купалля звычайна адбывалася на традыцыйным рытуальным месцы, на якім вясковая абшчына яшчэ са старадаўніх часоў адзначала найбольш значныя падзеі. У розных рэгіенах расселення беларусаў гэта магло быць узбярэжжа ракі ці возера, а калі побач не было вады, то выбіраліся які-небудзь паграк, невялікая палянка або проста ўскраіна гаю.

Паводле легендзе у купальскую ноч нібы расцвітае кветка папараці, і той, хто яе адшукае, можа авалодаць усімі земнымі скарбамі: будзе багаты і шчаслівы, атрымае дар разумець мову звяроў, птушак, дрэў, раслін. Але здабыць яе вельмі цяжка: у самую поўнач, калі яна павінна раскрыцца, прыходзіць мацнейшая навальніца, зіхаціць бліскавіца, грыміць гром, і таму, хто асмельваецца сарваць кветку, здаюцца розныя пачвары, якія імкнуцца ўсяляк перашкодзіць задумам чалавека. А калі ўдавалася сарваць кветку, дык павінен быў не аглядваючыся ісці дадому і не звяртаць увагі ні на пагрозы, ні на зманлівыя абяцанні, якімі ведзьмы імкнуліся прымусіць чалавека азірнуцца. Інакш, кветка ў адзін момант прападзе.

У адным з купальскіх паданняў расказваецца пра хлопца, які выпадкова зачапіў на Купалле лапцем папараць-кветку і здзівіў усіх хатніх сваей празорлівасцю, бо стаў разумець мову прыроды. Але, як толькі ен разуўся, дзівосныя здольнасці зніклі.

Па народных уяўленнях, папараць-кветка зацвітае на адно імгненне, пялесткі яе гарацъ як агенчыкі. Стаць уладаром яе вельмі цяжка, бо варожыя сілы увесь час ладзяць на шляху шукальнікаў кветкі шчасця непераадольныя выпрабаванні. Часцей за ўсе смяльчак гіне. Але без ўсякіх цяжкасцяў збірае гэтыя кветкі добры купальскі дзядок, кошык яго з кветкамі гарыць як жар. Калі раптам сустрэнішся з ім, трэба паслаць белы абрус, куды ен кіне кветку. Як мага хутчэй трэба схаваць яе пад скуру рукі, разрэзаўшы далонь...

Ну, а зёлкі, былінкі, травы ў купальскую ноч збіраюць наогул усе, што патрэбныя для выкарыстання – для вянкоў, лекаў і ежы, бо гэта лепшая іх пара.

Заканчвалася свята ўсеагульным купаннем у рацэ і пусканнем вянкоў на ваду, каб паваражыць аб сваей будучыні. Па тым, як будзе паводзіць сябе вянок, прадказвалі: калі ен адразу на дно пойдзе – не быць замужам у гэтым годзе, калі ж паплыве далека і роўна – быць шчаслівай у шлюбе.

С. Л. Кожин. Гадание на венках. 2009



# ВЕЛІКОДНЫЯ ПІСАНКІ

**размалёўвае па старажытнай тэхніцы роспісу гарачым воскам выкладчыца кафедры тэорыі і методыкі эстэтычнай адукацыі БрДУ імя А.С. Пушкіна Марына Уладзіміраўна МАРЧУК.**



У адрозненні ад разнакаляровых украінскіх, «дамачаўскія» альбо «астрамечаўскія» васкаванкі Марыны Уладзіміраўны вельмі сціплыя, манахромныя, з перавагай геаметрычных матываў. Іх колер – ад ясна чырвонага да тэракотавага, а таксама жоўты, залацісты, блакітны, зялёны, фіалетавы і нават... чорны (на Раданіцу). Выяўленчыя сродкі, галоўным чынам, – кропка і выцягнутая капля, якія маюць вельмі глыбокі сэнс, мноства семантычных значэнняў. Напрыклад, кропка – гэта зерне, зорка, капля дажджу і г.д. Выцягнутая капля – сонечны лучык, пялёстак кветкі, лапка бусла...

Дэкаратыўна афарбаваныя яйкі-пісанкі маюць багатую гісторыю, якая адносіцца да язычніцкіх часоў, калі ў старажытных славян курынае яйка выкарыстоўвалася як сімвал прабуджэння прыроды пасля зімовага сну. З прыняццем хрысціянства яно стала сімвалам Хрыстова Уваскрасення. Марыя Магдаліна падала Рымскаму імператару яйка са словамі «Хрыстос Уваскрэс», і ў тую ж хвіліну яно набыло чырвоны колер.

Паслядоўнасць дзеянняў майстра наступная: спачатку рыхтуецца яйка – выдмухваецца бялок і жаўток, затым на паверхне яйка асцярожна наносіцца карандашны эскіз, на эскіз – гарачы воск спецыяльным чанцінгам (альбо цвікам на палачцы.) Да-

лей яйка кладуць у фарбавальнік. Пры гэтым выкарыстоўваюцца толькі натуральныя фарбы. Гэта лушпавіна цыбулі, ягады чарніц, сок морквы, буракоў, кара дуба, арэшніка, альхі, парасткі збожжавых і інш.

Пасля афарбоўкі зноў пачынаецца праца з воскам – яго акуратна здымаюць з паверхні шкарлупіны пры дапамозе мяккай анучкі. Гатовае яйцо патрэбна навашчыць салам або раслінным маслам.

У жыхароў Прыбужжа існуюць некалькі спосабаў упрыгожвання велікодных яйкаў: гравіроўка, або скрабанка (з афарбаванага яйка вострым прадметам саскрабаецца фарба і на гэтым месцы застаецца белы узор), маляванка (калі яйка фарбуецца ў адзін колер) і набіванка (пры дапамозе трафарэту). Пры гэтым яйка фарбуюць некалькі разоў у год – на Каляды, на Вялікдзень і на Сёмуху.

А перайімала Марына Уладзіміраўна старажытныя прыёмы роспісу васкаванак ад сваёй бабулі Аляксандры Рамаyоўскай са Шклова, а таксама ад жыхароў Берастейскага краю, на радзіме мужа Валерыя Іванавіча, майстра беларускай керамічнай лялькі, пасля сумеснага заканчэння вышэйшай навучальнай установы ў Віцебску і пераезда ў Брэст.

*Ірына* БАГДАНОВІЧ







# УЗОРЫ НАДЕЖДЫ

**Штрихи к портрету и творчеству народного мастера Надежды Григорьевны Житенец из д.Чернавчицы. Родилась в Чернавчицах в 1931 году. Занимается вязанием крючком и спицами, прядением, ткачеством, вышивкой картин. Осталась в 10 лет без матери.**



***Вопрос:*** – Надежда Григорьевна, кто научил вас всему этому мастерству?

***Н. Г.:*** – Никто меня не учил. Как раз 21 июня 1941 года я сломала ногу. Отец на подводе повез в больницу в Брест, а тут бомбежка, началась война, и мы вернулись назад. Так я и осталась хромая. Родителей не стало, вот и пришлось все делать самой, чему-то учиться, ходила плохо, работа должна быть сидячая. Соседка моя была на все руки мастерица, она мне и сказала – учись, в жизни все пригодится. Сидела возле неё и наблюдала за её руками.

***Вопрос:*** – А как вы узоры придумываете?

***Н. Г.:*** – Все выдумляю з головы. Старшая сестра ходила в польскую школу. Её учителька в старших классах преподавала разные узоры – и я у сестры училась.

***Вопрос:*** – Как отражались на узорах какие-то знаменательные события в вашей жизни?

***Н. Г.:*** – События в моей жизни в основном горестные. Мы два раза горели: в 1941, когда немец пришел и когда освобождали в 1944 году. Поэтому и «узоры жизни моей» – тяжелые, безра-

достные. А когда появлялись светлые дни, тогда в узоры я добавляла яркие краски, цветы.

***Вопрос:*** – Надежда Григорьевна, а, может, вы знаете песни или поговорки какие о своем творчестве?

***Н. Г.:*** – Песен я не пела, бо война как раз была, а загадок много знаю.

- Чым я больш вярчуся, тым я больш таўсцею. *(**Веретено**).*
- Пад страхою пяць паненак мокрыя, а па дарозе пяць сухія ідуць. *(**Пальцы женщины, когда она прядет куделю**).*
- Сярод хаты стаіць чорт рагаты. *(**Коловорот**).*
- Крыж на крыжы, хто ведае, не кажы. *(**Клубок**).*
- Коціцца ні катушка, ні звер. Ні птушка, ні камень, ні вада, не адгадаеш нікагда. *(**Клубок**).*
- Нагамі прэ, пузам трэ, рукамі перабірае. *(**Кросны**).*
- Сярод хаты стаіць Сямен рагаты. *(**Ткацкий станок**).*

***Светлана ИЛЬИНА***
***Чернавчицкий СДК***

***Фото Игоря КУШНИРА***









# ЗАПРАШАЕМ У ДАМАЧАВА!

## Палитра красок народной ярмарки



9 мая 2014 года запомнился жителям Домачевского сельского совета не только замечательной солнечной погодой, митингом, но и ярмаркой, организованной в рамках проекта «Запрашаем у Дамачава». Проект, поддержанный Представительством зарегистрированного общества «Deutscher Volkshochschul-Verband e.V.» (Федеративная Республика Германия) в Республике Беларусь и реализуемый отделом образования, спорта и туризма в Брестском районе, подходит к своему завершению. Проведены поисково-образовательные экспедиции в деревнях Домачевского сельсовета, индивидуальные и групповые консультации по развитию территории, повышению её туристической привлекательности. Организована и активно работает инициативная группа. Издан туристический календарь на русском и английском языках «Запрашаем у Дамачава». В нём нашли отражение все возможные туристические мероприятия, объекты, способные привлечь туристов. Особое внимание уделялось возрождению почти забытых традиций и обрядов. Также реализуются и новые идеи.

На сегодняшний день особую привлекательность и перспективу имеет именно событийный туризм. Домачевская земля полна идей и творческих активных жителей. Календарь «Запрашаем у Дамачава» отражает годовой цикл сельской жизни, от сезона к сезону, от поста к посту. Например, одна из весенних страничек:

«Бородарки» – так называется обряд, который вы можете увидеть в дни Великого поста. В это время, перед пасхой, девушки и женщины собирались вместе, чтобы заниматься сезонной работой – ткать, что напряли с осени, вышивать и петь бородарки. Выходили девушки и женщины на мост к речке, пели, водили хороводы. Песни в основном пелись грустные, напевные. Но чувствуется в них дыхание весны, близкая радость светлого Христова Воскресения. Местные мастерицы покажут гостям свои вышивки, тканые изделия. В музее сельского клуба можно увидеть традиционное убранство Леплевской хаты.

